Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem

Вільня, 2-га сьнежня 1933.

№ 24.

Год 1-шы

# РОДНЫ КРАЙ

ОРГАН ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЕ АСЬВЕТЫ

выходзіць двойчы ў месяц.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:
Мэтрополітальны пляц 3 кв. 12.
Прыймо інтэрэсантаў:
у Сэкрэтар'яце ТБА—у будні ад 10—12 г.
у Рэдакцыі „ ад 12— 2 г.

Падпіска з дастаўкай поштай:
За год 3 зл. 50 гр.; за паўгоду—2 зл.
за 3 месяцы — 1 зл. 20 гр.;
за 1 месяц — 40 грош.

Цана асобнага нумару 20 гр.

Як мы ўжо інфармавалі, Беларускае Навуковае Т-ва ў Вільні на сваім надзвычайным сходзе 31-га кастрычніка с. г. пастанавіла апублікаваць свой пратэст проці рэформы беларускага правапісу Саветам Народных Камісараў БССР. Падаем тут поўны тэкст гэтага пратэсту.

## ПРАТЭСТ

### Беларускага Навуковага Т-ва проці дэкрэту Савету Народных Камісараў БССР аб рэформе беларускага правапісу.

Савет Народных Камісараў БССР апублікаваў у менскім офіцыозе „Зьвязьдзе" з 28. VIII. № 189 (4733) дэкрэт „аб зьменах і спрашчэньнях правапісу". Дэкрэт гэты зьмяшчае 28 пунктаў, якія рэформуюць беларускі правапіс, і падае гэткія матывы рэформы:

„ .... Беларускі нацыянал-дэмакратызм, выходзячы з сваіх буржуазных контррэвалюцыйных мэт, праводзіў падрыўную шкодніцкую работу, як на гаспадарчым, так і на культурным фроньце, у тым ліку і ў галіне мовы, тэрміналёгіі і правапісу. Нацыянал-дэмакратызм імкнуўся ўсімі мерамі і спосабамі адарваць беларускую літэратурную мову ад мовы шырокіх беларускіх працоўных мас, ствараў штучны бар'ер паміж беларускай і рускай мовамі і асьмешваў беларускую мову рознымі сярэднявяковымі архаізмамі і буржуазнымі вульгарызмамі. Існуючы беларускі правапіс значна засьмечаны указанымі нац-дэмаўскімі плынямі і таму падлягае зьменам.

„У мэтах рашучага выгнаньня з беларускага правапісу нац-дэмакратычных уплываў і скажэньняў, палягчэньня шырокім працоўным масам вывучэньня беларускай пісьменнасьці, аслабаненьня школы ад непрадукцыйнай работы пры вывучэньні беларускага правапісу, у мэтах далейшага разьвіцьця культуры беларускай мовы і поўнага падпарадкаваньня беларускага правапісу задачам выхаваньня працоўных мас у духу пралетарскага інтэрнацыяналізму Савет Народных Камісараў БССР пастанаўляе ўнесьці ў існуючы правапіс наступныя зьмены".

Ня гледзячы на гэткае тлумачэньне дэкрэту, рэформа, праведзеная Саветам Народных Камісараў БССР, ідзе зусім у іншым кірунку, разумеючы інтэрнацыяналізм як падпарадкаваньнс беларускага правапісу і мовы нормам расейскага правапісу і граматыкі, зусім нязгодным ані з духам беларускае мовы, ані з фонэтычнымі прынцыпамі існаваўшага дагэтуль на ўсіх абшарах Беларусі беларускага правапісу. Так, **2-гі пункт** гаворыць, што „**не** і **без**, калі яны стаяць асобна, заўсёды трэба пісаць праз **е**",— як быццам адзін толькі факт напісаньня **не** і **без** разам ці асобна зьмяняе вымову. Але ўзапраўднасьці так ня ёсьць. Напр. паводле рэформы было-б **без дому**, але **бяздомны**. У першым выпадку беларус вымавіць таксама, як і ў другім, г. зн. **я**, а не **е**, як загадвае дэкрэт.

**Пункт 4**: Выкінуць мяккі знак з напісаньня паміж мяккімі зычнымі, напр. замест **сьнег, дзьверы** (па стараму правапісу) трэба пісаць **снег, дзверы** (паводле рэформы). Мяккі знак захаваць перад мяккім зычным толькі ў такіх словах, у якіх ён у назоўным склоне пішацца перад цьвёрдым зычным, напр. **пісьмо—на пісьме.**—І гэта стаіць у яўнай супярэчнасьці з беларускай фонэтыкай. Бо, калі ў расейскай мове пішуць **снег, свет,** дык яны так і вымаўляюцца. У беларускай-жа мове ў падобных выпадках выразна

чуваць мяккі зычны, і таму напісаньні **сьнег, сьвет, дзьверы** зусім адпавядаюць фонэтычнаму прынцыпу, бо перадаюць запраўдную вымову.

**Пункт 5**: Таксама выкінуць мяккі знак паміж падоўжнымі (падвойнымі) зычнымі. Замест **насеньне, гальлё, калосьсе** і т. п. пісаць **пасенне, галлё, калоссе**; замест **судзьдзя** пісаць **суддзя**, падоўжнае **дз** перадаваць праз **ддз**.

Падоўжныя ці падвойныя зычныя, як **нн, лл, сс** і інш., паходзяць з славянскіх **нj, лj, сj** і інш.; калі пасьля іх стаіць галосны гук, то зычны ўпадабняецца да j, і тады ў беларускай мове атрымоўваецца падвойны мяккі зычны. Гэта чуваць выразна ў жывой беларускай народнай вымове; выкіданьне мяккога знаку з падвойных зычных зусім нязгодна з беларускай фонэтыкай.

**Пункт 6**: У злучэньнях каранного **д** з **с** наступных суфіксаў нязьменна захаваць **с**. Такім чынам замест **гарадзкі, грамадзкі** рэформа вымагае пісаць **гарадскі, грамадскі** і т. п.,—значыць, так, як у расейскай мове.

**Пункт 7**. Зычныя **г, ж, з, х, ш** у геаграфічных назовах ня зьліваць з суфіксальным **с**, прычым **г, к, х** у большасьці выпадкаў зьмяняць на **ж, ш**. Значыць: замест **праскі, чэскі, француские, рыскі, каўкаскі** трэба пісаць **пражскі, чэшскі, французскі рыжскі, каўказскі**, ці інакш кажучы—так, як і ў расейскай мове, бо беларуская мова ня ведала дагэтуль ані падобнага напісаньня, ані вымовы.

**Пункт 8**. Для разьдзельнага вымаўленьня зычных з наступным галосным заўсёды пісаць апостроф, — значыць: замест **зьява, зьесьці, зьехаць** трэба пісаць **з'ява, з'есьці, з'ехаць**, хоць беларусы ў жывой мове так не вымаўляюць. Выняткам з гэтага выпадку дэкрэт прадбачыць толькі **л**, пасьля якога трэба пісаць не апостроф, а мяккі знак, напр. Ільіч (пабеларуску мусіла б быць — згодна з прынцыпам падвойных зычных — Ільліч).

**Пункт 9**: Інтэрнацыянальныя рэвалюцыйныя словы не падпарадкуюцца аканьню: **рэволюцыя, совет, комуна, большэвік** і г. д. У другіх іншамоўных словах **о** падлягае аканьню.

**Пункт 10**: Іншамоўнае (лацінскае) **е (э)** перадаваць праз **е** (мяккое) за выняткам перад **г** і **ш**, калі **е** (лацінскае) перадаваць праз **э**. Дык замест **мэтодыка, фонэтыка, Амэрыка, камэдыя** — як вымаўляюць і пісалі да гэтага часу беларусы, савецкі дэкрэт загадывае пісаць **методыка, фонетыка, Амерыка, камедыя**. Тут ходзіць аб лацінскае (ці заходняэўрапэйскае) **е** (э), якое разам з перанятымі словамі прыйшло да нас беспасярэдна з Захаду і вымаўляецца так, як і на Захадзе, г. зн, як **э**. Толькі адны расейцы вымаўляюць гэтае **е** мякка (je). Дык і тут рэформа ізноў зусім ня лічыцца з духам беларускае жывое мовы, упадабняючы апошнюю да расейскае.

**Пункт 11**. Словы іншамоўнага паходжаньня з **l (ль)**, як правіла, перадаваць на беларускім пісьме „згодна з традыцыйна пашыраным у БССР вымаўленьнем", г. зн. пераважна цьвёрда. Замест **мэталь, бляни, кляса, плян, дыплём** трэба пісаць **мэтал, блані, клас, план, дыплом**. Тут мы маем ізноў скажэньне беларускае вымовы, падобнае да таго, якое ўводзіць пункт 10. Ходзіць тут аб напісаньне лацінскага **l (ль)**, якое прыйшло да нас з словамі, перанятымі з Заходняе Эўропы, і вымаўляецца мякка, як і на Захадзе. У расейскай-жа мове, наадварот, **l** вымаўляецца і пішацца цьвёрда—як **л**. Дык і тут рэформа хоча ўпадобніць беларускую мову да расейскай, аб чым гаворыцца на пачатку дэкрэту аб рэформе.

Гэты-ж пункт загадывае пісаць у іншамоўных словах пасьля **с і з — і**, а ня **ы**, напр.: Марксізм, сістэма, унівэрсітэт і т. п.

**Пункт 15**: Словы іншамоўнага паходжаньня, як **пролетар, алюмінь**, пісаць з канчаткам **ый, ій: алюміній, пролетарый**. Беларуская мова ня ведае такіх канчаткаў ані ў іменьнях ані ў прыметах.

**Пункт 18**: Назоўнікі мужчынскага роду ў родным склоне адзіночнага ліку павінны — паводле дэкрэту — мець канчаткі **а, я**; напр. замест **заводу, цэху, правапісу, Менску** трэба пісаць **завода, цэха, правапіса, Менска**. Якіх падстаў трымаліся рэформатары ў гэтым выпадку, трудна сказаць, бо чамусьці некаторыя словы, як вынятак, пакінуты бяз зьмен. Гэты пункт проста калечыць беларускую вымову, бо-ж нідзе ў чыстай беларускай народнай мове, як і ў літэратурнай, нельга спаткаць падобнай вымовы.

**Пункт 19**: Выключыць паралельныя формы **ом, ох** у назоўніках мужчынскага роду ў давальным і месным склонах множнага ліку. Г. зн. заўсёды пісаць так, як у наступных словах: **кіраўнікам, братам, плячам, аб кіроўніках, братах, плячах**. Тут рэформатары груба парушаюць той агульна-ведамы прынцып беларускае фонэтыкі, паводле якога канчаткі пад націскам мусяць захаваць **о**.

**Пункт 20**: Уніфікаваць залежныя склоны лічэбнікаў **два і дзьве, абодва і абедзьве** і для ўсіх трох радоў пісаць: двух, абодвух, двум, абодвум, двума, абодвума, на двух, абодвух. І гэты пункт ідзе ўразрэз з жывой беларускай мовай, абядняючы штучным спосабам багацьце формаў апошняе.

У апошніх пунктах дэкрэт Народных Камісараў БССР прапануе Беларускай Акадэміі Навук у Менску, якая ніякага ўчасьця ў падгатоўцы дэкрэту ня прыймала, распрацаваць адпаведныя правілы ў новым правапісе, тэрмінова апрацаваць і выдаць правапіс, сыстэматызаваць работу па ўпарадкаваньню правапісу і тэрмінолёгіі, а ўсім школам і выдавецтвам перайсьці на новы правапіс з 15 верасьня 1933 г.

Надзвычайны агульны сход сяброў Беларускага Навуковага Таварыства ў Вільні, адбыты 31 кастрычніка 1933 году, разгледзіўшы ўсебакова гэту рэформу беларускага правапісу, сьцьвярджае:

1) што рэформа забараняе адзначаньня ў беларускім пісьме і беларускім друку найбольш характэрных гукавых асабліва-сьцяў беларускае мовы;

2) што пастановы яе замест беларускіх канчаткаў пры скланеньні імёньнікаў, адпавядаючых агульным тэндэнцыям беларускае фонетыкі, уводзяць канчаткі расейскія, спрэчныя з беларускай фонэтыкай;

3) што загад пісаньня пабеларуску чужаземных словаў паводле расейскае вымовы нарушае ўстанавіўшуюся ў беларускай літэратурнай мове традыцыю захоўваньня вымовы арыгіналаў, у такой форме арганічна прысвоеных беларусамі згодна з тэндэнцыямі беларускае фонэтыкі;

4) што праведзеная гэтак рэформа і з пэдагогічнага гледзішча зьяўляецца шкоднай, бо на практыцы ня толькі не аблягчае, але затрудняе дзецям навуку граматы ў школе праз замену знаёмае і роднае ім беларускае фонэтыкі чужой фонэтыкай расейскай;

5) што для моладзі, навучанае граматы паводле новаўведзеных правілаў, цяжка будзе карыстацца раней выданымі беларускімі кніжкамі, надобна да таго, як і для ведаючых забароненую цяпер беларускую грамату трудна будзе чытаць і пісаць паводле новых правілаў, рэзка зьмяняючых прывычную фонэтыку жывое беларускае мовы;

6) што рэформа праведзена адміністрацыйнымі ўладамі паміма адзіных компэтэнтных у гэткай справе беларускіх навуковых устаноў і ў рэзкай супярэчнасьці з становішчам, згодна займаным дагэтуль і Беларускай Акадэміяй Навук у Менску, і Беларускім Навуковым Таварыствам у Вільні, і Акадэмічнай Конфэрэнцыяй у справе рэформы беларускага правапісу, адбытай у Менску ў 1926 годзе з учасьцем найвыдатнейшых філёлёгаў-славістаў з тэрыторыі СССР і з заграніцы, а такжа з агульна ведамым становішчам такіх выдатных беларускіх вучоных, як акадэмік Е. Карскі, акадэмік Б. Тарашкевіч і інш.

На падставе ўсяго вышэйсказанага Надзвычайны Сход Беларускага Навуковага Таварыства ў Вільні бачыць у праведзенай рэформе акт чыста палітычны, які, патаптаўшы вымаганьні навукі, зьняважыўшы беларускую граматыку і ўчыніўшы гвалт над жывой беларускай мовай, імкнецца гэтым шляхам да зьліцьця беларускае літэратурнае мовы з расейскай і да паступовага, сыстэматычнага абмаскоўліваньня беларускага народу.

Сход горача пратэстуе проці дэкрэту савецкіх уладаў з 28 жніўня 1933 г. і проці ўзнаўленьня гэтак на тэрыторыі Усходняе Беларусі сумных традыцыяў абрусіцельнае палітыкі царскіх урадаў. Ад імя аб'яднаных у Беларускім Навуковым Таварыстве працаўнікоў на ніве беларускае навукі сход заяўляе, што ўсе яны сваёй творчай працай будуць рашуча змагацца проці гвалту, учыненага над беларускай мовай і навукай наагул.

Сход зварачаецца да ўсіх незалежных учасьнікаў Акадэмічнае Конфэрэнцыі ў Менску 1926 году з заклікам далучыць свой голас да гэтага пратэсту.

# Куды гэта вядзе?

(*Голас з Дзісьненшчыны*).

Абставіны нашых сялянскіх карлаватых (малазямельных) гаспадарак заўсёды былі цяжкія.

Але ўсё гэта было зусім ня тое ў параўнаньні з сёлетнім годам.

Возьмем для прыкладу ўраджайны стан усходніх паветаў Віленшчыны, як дзісьненскі, браслаўскі і пастаўскі, дзе зямля шмат ураджайнейшая за пяшчаную і балоцістую глебу сьвянцянскага, віленскага і горадзенскага.

Але і тут ня толькі вясковаму пралетару (якіх шмат расплодзілася за апошні час па нашых вёсках), але і ўсім амаль малазямельным гаспадаром (якіх большая частка ў нашых вёсках) пагражае проста голад.

Яравыя пасевы і бульба, дзякуючы даўгім вясьняным дажджом, мяйсцамі зусім павымакалі, а тое, што ўратавалася, выйшла хударлявым і такім сухотна-бясплодным, што ў выніку заледзь пакрываець насеньне.

Потым—амаль ад пачатку мая — настала такая сьцюдзёная і мокрая пагода, што надта кепска адбілася на зборцы сена і жыта. Шмат дзе добры ўраджай канюшыны і сена падчас зборкі пачарнеў і пагніў ад дажджоў, што дужа блага адбілася на іх вартасьці, як корму.

Жыта і пшаніца, хоць мяйсцамі вырасла добра, аднак шмат дзе пагніло і парасло падчас зборкі—і так моцна, што прыходзілася аддзіраць сноп ад снопа.

Калі да гэтага дадамо яшчэ, што амаль усе сядзім бяз бульбы, бо дзе не адмокла вясной, то пагніла ўвосень, — дык для таго, хто ведае, што бульба ў нас і ў добрыя гады замяняе хлеб, прыварак, крупы і г. д., ды з яе вясковыя гаспадыні ўхітраюцца рабіць больш 10 страў рознай адмены,—ясна стане, што нашай вёсцы пагражае ў нябывалых разьмерах галадуха.

Калі прыгледзімся бліжэй да нашых карлаватых вясковых гаспадарак з другога боку,—дык заўважым, што ня толькі кепская пагода сёлетняй вясны, лета і восені гэтак кепска адбілася і вінавата ў кепскім зборы і ўраджайнасьці, — але заўважым яшчэ мо' страшнейшую прычыну: гэта тое, што глеба нашых сялянскіх зямель што-год далей горш пусьцее.

Прычына ў тым, што вось ужо колькі год (увесь крызысовы час) ні адзін селянін ня ўжывае на сваю зямлю штучнага гною, бо ня мае за што купіць. Застаецца ўся надзея на аборнік. Але апошнія гады сяляне

амаль зусім не прыпускаюць новага маладняка кароў і коні, бо маладняк хутчэй за ўсё пападае ў рукі сэквэстратара, а маладняк ранейшых гадоў сяляне стараюцца збыць дабравольнай прадажай, каб гэтым закруціць для сябе такі-сякі грош на самыя неабходныя патрэбы, як боты, соль, карасіна і г. д.

Дзякуючы гэтаму, амаль кожная карлаватая вясковая гаспадарка засталася толькі з адным неабходным кавём і каровай, якіх бароніць дабрадзейная ўстава ад сэквэстратара, як неабходны гаспадарчы інвэнтар. Так што, як бачым, і на аборнік надзея марная, а разам з гэтам кепская надзея на паправу ўраджайнасьці нашых зямель у будучыні.

Гэтак, дзякуючы ствары́ўшымся абставінам, зямля нашых карлаватых гаспадарак мусіць уосьцяж, год ад году, пусьцець.

Куды гэта ўсё вядзе?

Ці гэтым ня варта было-б шырэй зацікавіцца „czynnikom gospodarczym“ нашага краю ды прыйсьці з хуткай дапамогай нашым карлаватым сялянскім гаспадаркам, а тым больш ужо галадаючаму вясковаму беззямельнаму і безработнаму пралетар'яту, які, дзякуючы сваей неарганізаванасьці, не карыстаецца з жадных (ці то грамадзкіх, ці то дзяржаўных) дапамог, засілкаў і апекі.

Бо жыцьцёвыя абставіны гэтых людзей ужо проста страшныя. **М.**

# Гаспадарчы аддзел.

## Гадоўля жывёлы.

Ніхто ужо, здаецца, не павінен пярэчыць, што гадоўля жывёлы ў умовах беларускае вёскі адыгрывае вялікую ролю. Аднак, трудна сказаць, каб гэтая гадоўля вялася спосабам разумным, застасоўваючы памагчымасьці ўсе дасягненьні ў гэтай галіне навукі і практыкі. У вёсцы стараюцца, каб рагатае жывёлы і сьвіней было як найболей, асабліва ня дбаючы ані аб гатунку, ані аб кармленьні. Выходзіць тое, што мяйсцовыя пароды, якія нашы сяляне пераважна трымаюць, ня толькі не паляпшаюцца ў сэньне прадукцыі, але наадварот: чым далей, тым становяцца ўсё горшымі. Возьмем хоць-бы малочную жывёлу: яе ў вёсцы так дрэнна кормяць, што, калі-б паміж гэтай жывёлай былі адзінкі і прадукты́ўнейшыя, дык яны засуджаны на загубу. Справа ў тым, што карова, даючы малако, павінна ў корме атрымаць пажыўных матэрыялаў столькі, каб іх хапіла цалком для падтрыманьня цела, а таксама, каб была выстарчаючая колькасьць іх на прадукцыю такое колькасьці малака, якую жывёла ў сілах даць. Калі-ж дойная жывёла ў корме не атрымае патрэбнае колькасьці пажыўных матэрыялаў і аднача́сна ёсьць добра дойная, дык яна праўда, дасьць і так большую колькасьць малака, але ўжо гэтая звыжка вытварыцца коштам яе ўласнага цела. Карова пачне худзець і чэзнуць. Да слабога арганізму, зразумела, лёгка прычэпліваюцца розныя хваробы і, такім чынам, найлепшыя дойніцы гінуць, у той час, як яны мусілі-б як найдаўжэй жыць і пакінуць па сабе як найболей падобных да сябе нашчадкаў.

Нешта падобнае ў нас дзеецца і з гадоўляю сьвіней. Тут таксама трымаюць сяляне мяйсцовую, мала прадукты́ўную пароду, нічуць яе не паляпшаючы. Праўда, аж да адкорму гэтая жывёла корміцца чым папала. Але, як бы мы ні рахавалі, сьвіньні мяйсцовае, простае пароды за той даўгі час іх існаваньня (ад нараджэньня і да часу, калі яны ўжо годзяцца на ўбой) значна болей зьядуць корму на тую самую жывую вагу, чымся сьвіньні расы добрае, культурнае.

Выходзіць, што наш селянін куды болей траціць кармавых прадуктаў на кожны літр малака, на кожны кілёграм сала ці мяса. Гаспадар павінен імкнуцца да таго, каб ён на свой корм атрымаў як найболей малака, або сала ці мяса. Гэтага, бязумоўна, можна дасягнуць толькі тагды, калі нашы гаспадары завядуць болей прадукты́ўную жывёлу і будуць яе належным спосабам карміць і даглядаць.

Есьць заграні́чныя пароды рознае жывёлы, якія вызначаюцца надзвычайна высокай прадукты́ўнасьцю, але гэтыя пароды вельмі далікатныя і вымагаюць вельмі руплівага дагляду, а дзеля таго не заўсёды будзе карысна іх трымаць у нашых умовах.

Есьць яшчэ іншыя спосабы, пры дапамозе якіх можна дайсьці да вышэйшай прадукты́ўнасьці сваё жывёлы. Адзін із гэтых спосабаў— той, што мяйсцовая простая парода паляпшаецца няўстанным выбарам найпрадукты́ўнейшых і агулам найлепшых адзінак, якія і пакідаюцца на расплод. Пры гэтым спосабе гадуюцца цёлкі і бычкі толькі ад найлепшых дойніц. Падобным спосабам паляпшаюцца і іншыя віды гаспадарчае жывёлы. Гэты спосаб вельмі добры тым, што пры ім паляпшаная парода ўжо датарнавана да мяйсцовых умоваў, а знача найболей адпорная на розныя хваробы і больш звыклая на мяйсцовы хорч. Аднак, гэты спосаб вельмі трудны і задаўгі. Пры ім толькі за колькі дзесяткоў гадоў можна чакаць добрых вынікаў.

Куды лягчэйшы і шыбчэйшы другі спосаб, які палягае на тым, што да самак мяйсцовае пароды прыпушчаюцца самцы заграні́чных прадукты́ўныхародаў. У некаторых выпадках хапае 3-4 пакаленьняў, каб мяйсцовая парода набыла дадатных якасьцяў чужаземнае. Гэты астатні спосаб вельмі ўдатна быў выкарыстаны ў Швэцыі, дзе мяйсцовая парода кароў паляпшалася галяндзкімі быкамі. У выніку такое працы ў Швэцыі праз якіх-небудзь 15-20 гадоў атрымалася дойная жывёла такое высокае прадукты́ўнасьці, што нічым ня ўступала пародзе галяндзкай, а ў дзе-якіх выпадках давала нават лепшыя вынікі.

Прымаючы ўсё вышэйсказанае пад ува-

гу, гаспадары нашыя павінны ўсімі сіламі старацца завясьці ў сябе жывёлу вышэйшае прадуктыўнасьці. Лепей добрае жывёлы мець меншую колькасьць і добра яе карміць, чым мець многа дармаедаў.

Асабліва цяпер, перад зімою, гаспадары нашы павінны разглядзецца ў сябе ў хляве: ці тая жывёла, якую маем, варта таго, каб яе праз усю зіму карміць, і ці ня можна якім-колечы спосабам пастарацца замяніць непрадуктыўную жывёлу болей прадуктыўнаю. Пры гэтым трэба точна абрахаваць, колькі ёсьць корму для жывёлы, каб жывёлу не марыць голадам, а таксама, каб корм не заставаўся ці не марнаваўся дарэмна.

С. А.

# З Беларускага жыцьця.

## У Вільні.

**Канцэрт Славянскае Песьні,** які ладзіць Бацькоўскі Камітэт Беларускае Філіі Дзярж. Гімназіі ім. Ю. Словацкага ў Вільні на карысьць незаможных вучняў, адбудзецца няхільна ў нядзелю, 10-га сьнежня, у салі Гімназіі (Вострабрамская 9). Мястовая саля ня можа быць выкарыстана, бо яе магістрат зьбіраецца зьліквідаваць перад 10-ым.

Горача заклікаем беларускае грамадзянства адгукнуцца і падтрымаць гэтае пачынаньне Бацькоўскага Камітэту.

**„Пахаронныя абрады і памінаньне памершых“.** 19 і 25 лістапада адбыліся лекцыі ў Таварыстве Прыяцеляў Беларусаведы пры Віленскім Унівэрсытэце, прачытаныя грам. М. Пецюкевічам, сябрам вышэйупомненага Т-ва і сябрам Бел. Навуковага Т-ва ў Вільні. Лекцыі датычылі пахавальных абрадаў сярод славян наагул дый на Беларусі (спэцыяльна былі разгледжаны дні, пасьвячоныя памёршым). Лекцыі выявілі зацікаўленьне сярод публікі, якая была на лекцыях у даволі значным ліку.

**Суд над вучнямі-беларусамі.** 29. XI. у Віленскім Акруж. Судзе разглядалася справа былых вучняў былае белар. вучыц. сэмін. імя Ф. Багушэвіча: Крупіча А., Шутовіча П., Аляшкевіча П. і Атрахімовічанкі Л.

Усіх іх абвінавачвалі ў прыналежнасьці да КПЗБ,—аднак Суд не згадзіўся з довадамі пракурора і ўсіх іх апраўдаў.

Трэба адзначыць, што ўсе яны аднак адсядзелі няв'інна ў вастрозе па 8 месяцаў. Каму-ж гэта было патрэбна?

У справе выступаў, як сьведка, б. Дырэктар Сэмінарыі Р. Астроўскі і шмат вучняў. Баранілі вучняў адв. Заштовт-Сукенніцкая і адв. Хіль.

**Суровы прысуд.** Віленскі Апэляцыйны Суд засудзіў на 11 месяцаў і 800 зл. штрафу беларуса грам. Івана Крыўку (з Нова-Вілейкі)—за тыя закіды маральнага характару і абразьлівыя словы, якія Крыўка зьмяшчаў у адной з польскіх газэт па адрасу б. дырэктара Т-ва Арганізацыяў і Кулек Рольнічых у Вільні Чэслава Маковскага (брата б. польскага міністра судоў). Характэрна, што Акружны Суд, прызнаўшы, што Крыўка не даказаў слушнасьці цяжкіх закідаў, зробленых ім свайму быламу начальніку, засудзіў яго толькі на 3 месяцы арышту і 300 зл. штрафу, а Апэляцыйны Суд кару гэтак значна павялічыў.

Абаронцы гр. Крыўкі даказвалі на судзе, што ён у сваіх выступленьнях кіраваўся выключна грамадзкай карысьцяй і быў пераканаваны ў слушнасьці зробленых гр. Макоўскаму закідаў.

**Канфіскацыя „Белар. Газэты“.** Па загаду Староства сканфіскаваны № 11 „Белар. Газэты“ з 28 лістапада — быццам за стацьці і карэспандэнцыі аб выбарах у самаўрады.

**Першы фашыстаўскі орган пабеларуску.** У апошнім часе ў Вільні паўсталі дзьве адкрытыя пляцоўкі фашызму: польскі часопіс „Przebojem“ і беларускі „Новы Шлях“. На першай страніцы „Новага Шляху“ зьмешчана афіцыяльная заява рэдакцыі, што гэты орган мае выяўляць „беларускую нацыянальна-сацыялістычную думку“ (фашыстаўскую). Падпісаны, як рэдактар, ведамы сваім супрацоўніцтвам з п. Акіньчыцам (сябрам хадэцкага „Нацкому“) п. Ул. Казлоўскі. Часопіс друкуецца шрыфтам таксама найбліжэйшага супрацоўніка п. п. Валэйшы і Акіньчыца — п. Зпямяроўскага. Імёны гэтых паноў даволі гавораць за сябе, і нельга сумлявацца, што „работа“ фашыстаў знайшла на беларускім груньце людзей зусім адпаведных...

## На правінцыі.

**Што рабіць?** (в. Міцкавічы, Войстамскае гм., Вялейскага пав.). Жывучы на вёсцы, часта даводзіцца чуць гэтае пытаньне: што рабіць? На полі работу даўно скончылі, заработкаў ніякіх няма шмат, а тут ідуць даўгія зімовыя вечары, і запраўды няма што рабіць у іх. Вось людзі і пачынаюць гуляць у карты дый чаркай забаўляцца, з вялікай шкодай і для здароўя, і для кішанёў. А пачнеш казаць ім пра кніжку, пра газэту беларускую, дык адказваюць: грошы няма!

Браты! Калі захочаце, дык і грошы будуць зьберажоны, і карысьць мець будзеце, —толькі кіньце гэныя карты, кіньце піць гарэлку-атруту. А кніжку ды газэту можаце мець і бяз грошы: іх знойдзеце ў бібліятэцы-чытальні Таварыства Беларускае Асьветы (ТБА). Такая чытальня ёсьць у Смаргоні, і ў першую-ж сераду, як паедзеце на кірмаш туды, кожын павінен да яе заглянуць

(якая месціцца пры вуліцы Траўгута дом № 66). Дый можаце папрасіць Т-ва (Вільня, пляц Мэтрапалітальны дом 3, кв. 12), то і ў вашай вёсцы такую-ж чытальню адчыніце лёгка, бо кніжкі напачатак дастанеце дарма, а надалей прыкупляць будзеце за тыя дробныя, колькіграшовыя складкі, на якія кожны з вас будзе дуж. Кіньце толькі п'янства ды гульню ў карты, а займецеся добрай, карыснай працай над сваім разьвіцьцём, чытайце беларускія кніжкі ды газэты, якія адчыняць вам вочы і навучаць, што запраўды павінен рабіць кожны верны сын свайго народу і сваей вёскі! Ваш сусед Васіль Мусні.

## У Літве.

**Беларуска-украінскае супрацоўніцтва.** 4 лістапада ў Коўне, у памяшчэньні „Беларускае Хаткі“ адбыўся супольны беларуска-украінскі вечар на карысьць безработных беларусаў і украінцаў. Пасьля спэктаклю адбыліся танцы на салі.

## Б. С. С. Р.

**Тарашкевіч і Рак-Міхайлоўскі ранены?** Польская прэса зьмясьціла вестку, што колькі дзён таму назад недалёк ад Полацку сталася чыгункавая катастрофа: два цягнікі наскочылі адзін на адзін і разьбіліся. Адным з гэтых цягнікоў ехалі Тарашкевіч і Рак-Міхайлоўскі. Яны быццам абодва ранены.

Як мы даведаліся, пасьля прыезду ў Саветы Тарашкевіч на нейкі час паехаў на Крым, каб паправіць сваё здароўе, расхістанае ад многалетняга прабываньня ў вастрогах Польшчы. Судзячы з паданае ў польскіх газэтах весткі аб катастрофе, адпачынак Тарашкевіча закончыўся, і ён, відаць, распачаў ужо працу, гэтак нешчасьліва прыпыненую.

# Палітычная хроніка.

**400-тыя ўгодкі нарадзінаў Сьцяпана Батуры.** 25 і 26 лістапада адбыліся ў Горадні ўрачыстасьці, зьвязаныя з сьвяткаваньнем 400-тых угодкаў нарадзінаў Сьцяпана Батуры, аднаго з найбольш слаўных манархаў Польшчы і Літвы.

У Горадню зьехаліся найвышэйшыя саноўнікі Польшчы на чале з п. Прэзыдэнтам Рэспублікі.

**Новая хваля нацыянальных рэпрэсіяў у Савецкай Украіне.** З Украіны йдуць весткі аб новых страшэнных гвалтах над нацыянальным жыцьцём украінскага народу ў Сав. Украіне. 22 лістапада на зьезьдзе Цэнтральнага Камітэту камуністычнае партыі Украіны прыняты рад вельмі жорсткіх рэзалюцыяў у гэтым духу.

**Сэнсацыйная прамова Саймона.** Англійскі міністар замежн. спраў заявіў у сваей прамове ў парляманьце, што Англія зробіць усё магчымае, каб намовіць Нямеччыну да павароту на разбраенчую канфэрэнцыю, якая без Нямеччыны проста ня мае ніякага сэнсу. Міністар Саймон дадаў, што ня можна больш балюча абразіць Нямеччыну, як заявіўшы, што выступленьне яе не зьмяніла ні ў чым палажэньня рэчаў, ды што разбраенчая ўмова будзе апрацавана без Нямеччыны, а толькі пасьля, гатовая, запрапанавана ёй дзеля падпісу.. „Нямеччына—вольны і раўнапраўны грамадзянін у сям'і народаў, але не падданы, якому можна дыктаваць варункі ўмоваў“,—сказаў англійскі міністар.

Гэтае вострае выступленьне яўна скіравана проці францускага міністра Поль Бонкура, каторы акурат такія заявы аб працы канфэрэнцыі бяз учасьця Нямеччыны зрабіў у адной з сваіх апошніх прамоваў...

**Ізноў зьмена ўраду у Францыі.** У Францыі ізноў урад выйшаў у адстаўку. Габінэт прэм'ера Саро звалены ў часе дыскусіі над фінансавым праектам ураду, як гэта было і з папярэднім габінэтам. Парлямант выказаў яму свой недавер.

Было гэта ў ноч на 24 лістапада. А ўжо 27 быў сфармаваны новы габінэт з прэм'ерам Шотан, каторы ўжо двойчы быў галавой ураду. Розьніца паміж абыдвума габінэтамі па іх партыйнаму і асабоваму складу вельмі невялікая. У новым габінэце, як і ў папярэднім, асноўным ядром зьяўляюцца радыкалы і радыкалы-соцыялісты. Прэм'ер Шотан мае перад сабой вельмі цяжкую задачу: трэба за ўсялякую цану зьменшыць выдаткі больш, як на мільярд франкаў. Але соцыялісты не даюць зрабіць гэтыя ашчаднасьці коштам дзяржаўных працаўнікоў, а правіца—коштам буйнай буржуазіі. Да сярэдняе-ж дый дробнае буржуазіі належаць якраз радыкалы і радыкал-соцыялісты, дык ясна, што яны ня могуць „крыўдзіць“ сваіх выбаршчыкаў. Дык вось — у гэтым зачарованым коле й круцяцца „напалову-пануючыя“ партыі, не здабыўшыя на выбарах патрэбнае перамогі. Адсюль і „цяга да фашызму“, якая ў Францыі ўсьцяж крапчэе.

**Перамога правіцы ў Гішпаніі.** 20 лістапада адбыліся ў Гішпаніі першыя нармальныя выбары ў парлямант. Як гэта ні дзіўна, у Гішпаніі, дзе яшчэ, як ведама, ідзе ўсьцяж „паглыбляньне рэвалюцыі“, выбары далі бліскучую перамогу правіцы, ці—контр-рэвалюцыі. Праўда, маюць яшчэ адбыцца дадатковыя выбары ў акругох, дзе першае галасаваньне не дало большасьці ніводнаму з кандыдатаў, і справа рэвалюцыі можа йшчэ быць папраўлена. Дык блізу ўсе левыя партыі, кінуўшы спрэчкі між сабой, аб'ядналіся, каб ратаваць заваяваньні рэвалюцыі ад падняўшае ўжо сьмела галаву рэакцыі...

Трэба адзначыць, што вялікую ролю адыграла ў перамозе правіцы гішпанская жанчына, якая, атрымаўшы выбарныя правы, аддавала галасы проці тых, хто выступаў супроць каталіцкага касьцёлу... Адначасна соцыялістычная прэса выкрывае вялізарную акцыю манархістаў у пастаці „купляньня“ галасоў выбаршчыкаў за грошы.

# ЛІТЭРАТУРНЫ КУТОК.

М. Дальны.

* * *

Гэта не партрэт на продаж.
Не!
Вось ён—
гляньце!
ад холаду сіні,
худы, як цень,
у падвале смуродным
І аджыўляецца
штодзень бульбай з лупінай.
Навакол—
камяніцы,
машыны,
вагні... —
гэта ён!
сіні ад сьцюжы...
Ці пад музыку
ў віне вам ня іскрыцца,
Як у сонцы мускулы ён пружыць?
Проза дня:
ў тумане места
Яго постаць (нібы помнік);
Б'е няўтомна
ў бляху—
правіць дах.
Не здалося вам?—
Пад тахт аркестру...
Ідуць...
у бой... яны... бяз страху?

Ар. Ат.

* * *

Ня то лес шуміць,
Не вада гудзіць,
Ня то віхры ў палёх разгуляліся.
Ветры, ветрыкі
У лесе шумамі,
Віхры дзікія
У полі бурамі
Нечым новенькім адазваліся...
З вёскі ў вёсачку
Хваля коціцца;
Радасьць п'яная
У сэрца просіцца...
То ня лес шуміць,
Не вада гудзіць,
То ня віхры ў палёх разгуляліся.
Лес замоўк... маўчыць...
Вецер буйны сьціх—
Вёска з вёсачкай разгукалася:
Думкі новыя
Песьняй родзяцца,
Словы п'яныя—
Буры хочацца.
То ня з захаду
Плывуць хмаранькі,
Не варон ляціць
Стая чорная:
Гэта толькі йдуць
Нашы братаўкі,
Беларусь ідзе
Непакорная.

Мікола Засім.

## Бяда з пасталамі.

Вёз на станцыю я з лесу
Жыдоўскія шпалы
Ну і, ведама, за возам
Іду ўсё памалу.
Аж тут на табе—здарыся —
Пастол абарваўся!
Дык яго я падвязаць
Ад возу застаўся.
І пакуль я падвязаўся,
Дык мая „марыля"
Гэтым часам крокаў трыста
Ад мяне ўсмаліла.
Каб дагнаць яе хутчэй,
Дык я пажаўнерску. —
Прыбягаю—аж ля воза
Стаіць паліцэйскі.
І давай ён вывадзіць
Пра дазор мне школу.
„Запісуен пана за то
Я до протоколу".
Я давай яго прасіць:
„Пане, па няшчасьцю"...
А ён слухаць не схацеў,
Бадай яго трасца.
Ну, і мусіў 10 злотых
Кары заплаціці.
Вось, браточкі, што пастол
Можа нарабіці!
І цяпер вось трэба мне
Зарабіць на газу,
Ды ня еду ужо я
Па шпалы ні разу.
Бо паедзь—аж ну ізноў
Валока парвецца?!
Не заробіш, а бяда
Зьнекуль зноў нарвецца.
А каб боты узлажыць—
Дык я іх ня маю.
І вось так, мае браткі,
Я і прападаю.

## Літэратурныя навіны.

2. **Крапіва. „Калючы Строй"** (выбраныя вершы), Дзяржаўнае Выдавецтва Беларусі, Менск, 1932. 30 стр. in 4°. („Бібліотэка для малапісьменных").

Маленькі гэты зборнічак вядомага гумарысты Савецкай Беларусі Крапівы абыймае 14 вершаў, якія падзелены па зьместу на тры разьдзелы:

1. Стань, радкоў калючы строй, супроць

спадчыны старой; 2. пра лодыраў ды шкоднікаў—багоў, папоў, угоднікаў і 3. байкі.

У першым разьдзеле гастрыё сатыры й гумару Крапівы зьвернута супроць культурнай адсталасьці некаторых сялян і працаўнікаў савецкай улады. У Альжбеты хворае дзіця. „Бабка" Ганула дае ёй спосаб лячэньня—дзіця памірае. („Калі церці, дык да сьмерці"). Цётка Улюта пасьціла перад Вялікаднем, а

„На вялікдзень, з галадухі,
Пасьля бульбы й салаухі,
Цётка Улюта як прысела,
Дык паўшынкі зразу зьела;
Не дала, пасьля за мясам,
Яна ганьбы і кілбасам;
Гэтак сама й пірагу,
Гэтак сама й тварагу,
Гэтак сама й парасяці...
Ды ўсяму, што было ў хаце,
Яна ганьбы не давала..."

Вынік ясны — пакуль мужык прывёў шаптуху, Улюта была „бяз духу".

У другім разьдзеле Крапіва то прадстаўляе папа, які зьбіраецца памерці, бо няма даходу („А ў царкве найлепшым сьвятам—дзьве бабулькі, адзін дзед..."), то на матыў малітваў гаворыць аб грубым матэр'ялізьме духаўнікоў, то процістаўляе малацьцы Ільлі — электрыку, кажучы, што яго тэхніка „устарэла".

У трэцім разьдзеле Крапіва стварае сьмешныя сытуацыі з жыцьця зьвяроў або авадоў ці мёртвай прыроды і пераносіць іх у сьвет людзей, выводзячы з гэтага навуку. Гэта, наагул, характэрыстычны прыём Крапівы, свомы й Крылову, і іншым байкапісцам. Большасьць вершаў—старыя.

## Літэратурная хроніка.

11-га лістапада ў Салі Сьнядэцкіх у Віленскім Унівэрсытэце адбыўся 2 гі „вечар паэзіі бунту", ладжаны Незалежнай Соцыялістычнай Студэнцкай Моладзьдзю. Пад паэзіяй бунту, як зазначыў старшыня Саюзу Незал. Соцыялістаў, разумець трэба ўсякую паэзію, якая выступае процім існуючага стану рэчаў і зрывае з старой формай і з старой тэматыкай. Рысай яе зьяўляецца занік індывідуалізму. Былі дэклямаваны творы ў польскай, расейскай, беларускай, жыдоўскай, літоўскай мовах (Маякоўскага, Ясіньскага, Чарота і інш.). Трэба зазначыць, што спаміж усіх дэклямацыяў творы ў беларускай мове выпалі найслабей. Найлепш хіба з усіх дэкляматараў (Я. Хвораст, Э. Валкінд і Б. Стэповіч) адзначыўся Я. Хвораст.

Колёсальным пасьпехам карысталіся творы ў жыдоўскай мове („Працэсія"—„трот нох трот" і „Машыны"), якія былі выражаны з пантамімічнай ілюстрацыяй. Публікі, пераважна моладзі, было шмат, прытым публіка складалася з найразнароднейшых нацыянальнасьцяў. Спр.

# Цікаўныя і карысныя рэчы.

### Тысячалецьце кітайскае газэты.

Нядаўна кітайскі часопіс „Peking Gazette" сьвяткаваў свой тысячалетні юбілей. У сувязі з гэтым у юбілейным нумары была зьмешчана цікаўная статыстыка—аб лічбе рэдактароў газэты, пакараных сьмерцяй. Аказалася, што ў працягу тысячы гадоў былі сьцяты 1797 рэдактароў гэтае газэты за розныя праступкі.

# Паштовая скрынка.

**Гр. Пятроўскаму** — Дэрэчын, Слон. пав. Пісьмо Вашае з асьведчаньнем гр. Ракевіча атрымалі і зараз жа распачалі акцыю па залегалізаваньню бібліатэкі ў в. Угрын Вялікі.

**Гр. Дурэйцы** — м. Смаргонь, Ашмянск. пав. Пісьмо Вашае атрымалі. Новыя кнігі для бібліатэкі вышлем бясплатна — зьбірайце ахвотныя складкі толькі на ўтрыманьне бібліатэкі.

### Рыначныя цэны ў Вільчі. (I. XII. 1933).

Жыта 2 зл., 20 гр. дэт. 2 зл. 50 гр. Ячмень гурт. 2 зл., 20 гр. дэт. 2 зл. 50 гр. Авёс гурт. 1 зл. 70 гр дэт. 2 зл. 00 гр. Пшаніца гурт. 2 зл., 80 гр. дэт. 3 зл. 20 грашей. Бульба пуд. 80 грашей дэт. 1 зл. 20 гр. Саланіна 1 зл. 80 гр.—2 зл. Шмалец 2 зл. — 2 зл. 40 гр. Масла прас. 3 зл. 80 гр. — 4 зл. 20 гр., масла гаспадар. 3 зл. 00 гр.—3 зл. 40 гр. Яйкі 8-10—10-14 гр. Даляр 5 зл. 58 гр.



Рэдактар: М. СІНЯЎСКІ.—Выдавец: ТБА. Друкарня Я. Левіна, Вільня, Нямецкая 22

42917